


Жыве Беларусь!

# Родная ніва

Газета ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Заснавана ў красавіку 1918 года

2000
17
МАЯ
СЕРАДА
№ 38 (9525)

## Беларусь адзначыла Дзень Перамогі

55-ю гадавіну Вялікай Перамогі над фашызмам адзначалі ў кожным беларускім горадзе і кожнай вёсцы. У сталіцы святкаванне пачалося 9 мая з ускладання да манумента Перамогі вянкоў ад Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, Прэзідэнтаў Расіі, Украіны, ад прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса, акрэдытаваных у Беларусі. А ў дзесяць гадзін раніцы на плошчы Незалежнасці ў беларускай сталіцы прайшоў ваенны парад, прысвечаны 55-годдзю Вялікай Перамогі. Ва ўрачыстым маршы прынялі ўдзел больш як чатыры тысячы ваеннаслужачых беларускай арміі. Затым кіраўнік дзяржавы павіншаваў ветэранаў і ўсіх суайчыннікаў са святам Вялікай Перамогі.

Дзень Перамогі 9 мая — гэта асабліва ўрачыстая дата, якая аб'ядноўвае ўсіх грамадзян нашай краіны, сказаў Прэзідэнт. У гады вайны Беларусь страціла трэць сваіх сыноў і дачок. Яны прынялі смерць дзеля жыцця на зямлі, і святая памяць аб іх подзвігу назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

У гонар Дня Перамогі ў горадзе-герои Мінску і крэпасці-герои Брэсце 9 мая адбыўся святочны салют дваццацю артылерыйскімі залпамі.

## Удзячнасць людская

Нядаўна ў саўгасе "Мілаславіцкі" адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 55-годдзю Вялікай Перамогі. Галоўныя госці свята — ветэраны Вялікай Айчыннай вайны. З прывітальнымі словамі да прысутных звярнуліся дырэктар саўгаса В. М. Судзілоўскі, старшыня мясцовай савецкай улады Г. М. Сцебуноў, дырэктар СДК А. І. Пукілаў. Сваімі ўражаннямі аб мінуўшай вайне падзяліліся ветэраны Іван Сяргеевіч Майстроў, Аляксей Фёдаравіч Мацвееў, Мікалай Паўлавіч Карніенка і іншыя.

Затым да абеліскаў загінуўшых воінаў былі ўскладзены кветкі і вянкі. Ва ўрачыстай абстаноўцы ўсім ветэранам Вялікай Айчыннай уручаны юбілейныя нагрудныя знакі. Выступленне самадзейных артыстаў было цудоўным завяршаючым акордам святочнага мерапрыемства. Усе ветэраны засталіся задаволены такой цеплынёй і ўвагай да іх.

**М. КАРНІЕНКА,**
**в. Мілаславічы.**

## Будьте счастливы!

Уважаемые В. В. Коновалов, С. М. Баранов!

Благодарим Вас за доброе, волнующее приветствие к Дню Победы: оно подтверждает нашу обоюдную Верность идеалам, за которые сражались и гибли в боях Великой Отечественной войны наши братья-солдаты, партизаны, люди труда.

Мы помним нашу Беларусь — от Бреста до Могилевщины. Помним и чтим (вместе с Вами) подвиги однополчан на жестоких полях лета 1941-го.

Мы желаем Вам, всем труженикам и ветеранам Климовичского района успехов в труде, прочной дружбы и единения во имя роста и процветания Родины!

Будьте счастливы!

**С искренним уважением**
**Ваши ветераны 6-й Орловско-Хинганской (бывшей 1-й Гатчинской и 3-й Петроградской) с. д.**

**С. ШТЕЙН,**
**председатель Совета.**

## Інфармацыя аб ходзе сельскагаспадарчых работ у калгасах і саўгасах раёна

**Даныя раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання па стану на 12 мая г. г.**

| Назва гаспадарак | Уся ярав. сяўба | |
|---|---|---|
| | план (га) | у % да плана |
| **Калгасы:** | | |
| "Герой працы" | 726 | 95 |
| імя Янкі Купалы | 724 | 93 |
| "Рабочы" | 1451 | 89 |
| "Галіцкі" | 1008 | 89 |
| "Сасноўка" | 1709 | 86 |
| "Новае жыццё" | 1187 | 78 |
| "Чырвоны сцяг" | 873 | 77 |
| **Саўгасы:** | | |
| "Малышкавічы" | 1217 | 99 |
| "Макеевічы" | 1226 | 91 |
| "Мілаславіцкі" | 1324 | 90 |
| "Высакоўскі" | 1296 | 87 |
| "Ціманава" | 1827 | 84 |
| АГП "Асмолавічы" | 444 | 82 |
| "Раднянская" | 1560 | 80 |
| "Звянчацкі" | 1199 | 75 |
| Падсоб. гасп. ЛГЗ | 1353 | 73 |
| Птушкафабрыка | 760 | 64 |
| Сельгастэхнікум | 341 | 55 |
| **Усяго па раёну:** | **20265** | **84** |

## Сделано доброе дело

Дорогие климовчане!

Сегодня со страниц газеты от имени районного исполнительного комитета и себя лично я обращаюсь со словами глубокой признательности и благодарности к руководству Климовичского комбината хлебопродуктов (директор Коленько А. П.) и ликеро-водочного завода (директор Ромашкевич В. А.).

Ни для кого не секрет, что из множества нынешних проблем, стоящих перед обществом, самые сложные — финансово-экономические.

Сегодня большинству из нас живется тяжело, незавидная судьба у многих предприятий, организаций, учреждений района. Безусловно, немало собственных трудностей у коллективов ликеро-водочного завода и комбината хлебопродуктов. Тем не менее, они сознательно взяли на себя дополнительные затраты и расходы по приобретению еще одного автобуса "Икарус", проявив при этом большую заботу о климовчанах. Благодаря их финансовой помощи и поддержке в мае 2000 года дополнительно вышел на линию автобус для пассажирских перевозок. Сделано очень доброе дело. И пусть отзовется оно в сердцах климовчан искренним словом понимания, а коллективам комбината хлебопродуктов и ликеро-водочного завода желаю дальнейших успехов в работе, достижения намеченных целей и задач.

**С уважением**
**В. В. КОНОВАЛОВ,**
**председатель районного исполнительного комитета.**

*Ураджай-2000*

## Поспех працай забяспечваецца



Як толькі адсеялі раннія зерневыя, хлебаробы племзавода "Ціманава" прыступілі да пасадкі позніх сельскагаспадарчых культур. У гэтыя майскія дні тут садзяць бульбу, сеюць кукурузу, рапс, аднагадовыя травы на корм жывёле. Вядуць падсеў шматгадовых траў. А вось караняплоды ўжо адсеялі на сарака гектарах

А яшчэ — падкармліваюць сенажаці і пашы. У рабоце задзейнічана 29 трактараў, з іх 10 — энерганасычаных. Больш, чым дзе ў раёне!

Яно і вядома, аб'ём веснавых палявых работ вялікі. Уся яравая сяўба тут складзе згодна плану 1827 гектараў! Больш чым каму давядзецца засеяць і папрацаваць мясцовым працаўнікам палёў. І трэба аддаць ім належнае. Яны не ўпускаюць лепшыя агратэхнічныя тэрміны сяўбы.

Асабліва — працаўнікі першай паляводчай брыгады. Яе кіраўніка, Любоў Уладзіміраўну Старавойтаву вы і бачыце разам **на здымку** (у цэнтры) з дырэктарам гаспадаркі Анатолем Анатольевічам Валадковічам і адным з лепшых механізатараў на пасяўной Уладзімірам Нікіфаравічам Осіпавым.

Пра кожнага з іх шмат можна гаварыць добрага. Многае скажуць і вось гэтыя лічбы. Сённяшні дырэктар А. А. Валадковіч толькі ў былым ліквідаваным саўгасе "Савінічы" адпрацаваў галоўным аграномам 12 гадоў. Л. У. Старавойтава 14 год занята ў сельскай гаспадарцы (дзевяць — аграномам, пяць — брыгадзірам). А вось У. Н. Осіпаў 32 гады як у племзаводзе механізатарам. Іх працоўны стаж гаворыць сам за сябе.

**І. ЛАПО.**
**Фота В. АСМАЛОЎСКАГА.**

## Ураджай-2000

## Весткі з гаспадарак

### Сяўба яравых

Першымі ў раёне яе завяршылі ў саўгасе "Малышкавічы" на ўсёй 1217-гектарнай плошчы. Справілі таксама дасеўкі на ўсіх запланаваных плошчах яравых у саўгасе "Мілаславіцкі", а таксама калгасах "Герой працы", імя Янкі Купалы, "Рабочы", "Галіцкі", сельгастэхнікуме і іншых гаспадарках. Цяпер у райсельгасхарчы падводзяць вынікі работы сярод лепшых хлебаробаў на сяўбе.

### Пасадка бульбы

Першымі паведамілі ў райсельгасхарч аб завяршэнні гэтай работы падсобная гаспадарка ЛГЗ і АГП "Асмолавічы", дзе клубні размясцілі адпаведна на 20 і 5 гектарах. А ўслед за імі — саўгас "Звянчацкі" і сельгастэхнікум. Завяршаюць пасадку бульбы ў племзаводзе "Ціманава" на 100 гектарах і саўгасе "Малышкавічы" на 5.

А яшчэ таксама пасаджана 44 працэнты да плана ў калгасе "Новае жыццё", 40 — саўгасе "Мілаславіцкі", 31 — эксперыментальнай базе "Раднянская" і 12 у племсаўгасе "Высакоўскі". Па раёну пасаджаны 194 гектары клубняў. А ўсяго яны зоймуць 443 гектары.

### Сяўба кукурузы,

каштоўнай кармавой культуры, таксама ідзе арганізавана. Яе размесцяць у раёне згодна плана на 2550 гектарах. Пасеяна ўжо больш двух тысяч гектараў. Адны гаспадаркі справілі дасеўкі, а гэта калгасы "Рабочы" (пасеяў 200 працэнтаў да плана), імя Янкі Купалы, "Герой працы", саўгасы "Мілаславіцкі", "Малышкавічы", "Макеевічы",эксперыментальная база "Раднянская", АГП "Асмолавічы". Другія ж — дасяваюць. А гэта калгас "Чырвоны сцяг", племзавод "Ціманава" і племсаўгас "Высакоўскі".

### Сяўба караняплодаў

таксама ідзе поўным ходам. Так, у племзаводзе "Ціманава" замест 30 па плану іх пасеялі на 40 гектарах. Цалкам адсеялі ў калгасах "Чырвоны сцяг", імя Янкі Купалы. Дасяваюць у эксперыментальнай базе "Раднянская", калгасе "Галіцкі". Па раёну пасеяна 56 працэнтаў да плана. А ўсяго будуць размешчаны на 360 гектарах.

### Сяўба рапса

Як вядома, рапс важная тэхнічная культура. Поўнасцю ёю засеяны запланаваныя плошчы ў калгасах "Галіцкі", "Рабочы", "Герой працы", " Сасноўка", племсаўгасе "Высакоўскі", саўгасах "Макеевічы" і "Малышкавічы", эксперыментальнай базе "Раднянская". Астатнія — дасяваюць. У раёне пасеяны 1162 гектары рапсу з плануемых 1450. Так што сёлета будзем з рапсавым алеем.

Усе даныя райсельгасхарчу — па стану на 15 мая г. г.

**І. ЛАПО.**

## На зялёны корм

Сяўба аднагадовых траў не менш важна для папаўнення кармавых рацыёнаў жывёлы. Так вось у калгасах "Рабочы", "Галіцкі", "Чырвоны сцяг", "Новае жыццё", "Герой працы",імя Янкі Купалы, а таксама на птушкафабрыцы, у племсаўгасе "Высакоўскі", саўгасе "Макеевічы" і сельгастэхнікуме іх ужо адсеялі.

Як, дарэчы, і ў саўгасе "Малышкавічы" і саўгасе "Мілаславіцкі". Прытым у дзвюх апошніх значна больш запланаванага. У першай — 343 гектары замест 242, а ў другой — 204 замест 144. А ў эксперыментальнай базе "Раднянская" 200 гектараў з запланаваных 160.

Чым не клопат аб грамадскім статку. Так што цяпер будзем чакаць пудовых надояў і кілаграмовых прываг. Усяго ж па раёну на сярэдзіну мая было пасеяна 2400 гектараў аднагадовых траў з плануемых 2437.

**І. ЛАПО.**



# ПАТРЫЁТ



Старонка ваенна-патрыятычнага выхавання

*Ваша пісьмо*

## Рэха гадоў палымяных

Іван Сяргеевіч Кружаленка нарадзіўся ў сялянскай сям'і, у в. Нязнань Кісялёва-Будскага сельсавета.

— Бацька мой рана памёр, а маці засталася адна з пяццю дзецьмі. Я быў самы старэйшы, — успамінае мой субяседнік. — Закончыў 6 класаў і пайшоў працаваць паштальёнам, атрымліваў адзін пуд зерня ў месяц — гэта была добрая падмога маці.

У ліпені сорак першага года Івана Сяргеевіча прызвалі ў армію. У г. Свярдлоўску закончыў школу сяржанцкага саставу, і адразу ж яго накіравалі ў Маскву ў распараджэнне штаба галоўнага камандавання. Затым трапіў у роту разведкі пад г. Ржэў, быў камандзірам аддзялення. Тут жа, на Волзе, прыняў баявое хрышчэнне. Іван Кружаленка атрымаў тут першае раненне.



Затым — наступленне ў напрамку Даргабужа Смаленскай вобласці — і зноў бой, за станцыю Сафонава. Пяць месяцаў стаялі тут у абароне. Пасля вызвалілі Смаленск і ўзялі курс Віцебск — Орша, дзе таксама прайшлі бai. Пасля Мінскага наступлення прайшлі з баямі Прыбалтыку.

— У час фарсіравання Нёмана мы занялі плацдарм на заходнім беразе, — гаворыць І. С. Кружаленка. — Нас было пяць чалавек. Я ўбачыў, што нямецкі танк скрытна пачаў абыходзіць нас злева, за ім рухаліся каля двух дзесяткаў фашыстаў. Калі яны наблізіліся да мяне метраў на трыццаць, я даў па фашыстах кулямётную чаргу, перабіўшы іх усіх. Але са сваёй "буйнакаліберкі" танк разбіў мой кулямёт і раніў у правае плячо. Паўсутак я ляжаў беспрытомны.

Пасля шпіталя Іван Сяргеевіч зноў трапіў у сваю брыгаду. Пры наступленні на Кенігсберг куля чаплянула яго, але на гэты раз абышлося без лячэння.

Памятае франтавік, як неадночы хадзіў у разведку, як даводзілася браць "языка". Адно з такіх заданняў было дадзена паблізу ракі Вісла. З ім быў спецыяльна падрыхтаваны плавец, сяржант з Ленінграда. Дасталі "языка" без усялякіх перашкод. А калі ўжо ступілі на свой бераг, немцы нечакана адкрылі па іх агонь. Іван Сяргеевіч у чарговы раз атрымаў раненне. Зноў шпіталь, на гэты раз у Беластоку, што ў Польшчы. Пасля лячэння вярнуўся ў сваю часць. Да гэтага часу Варшава была ўжо вызвалена.

Пасля пяці раненняў дабіваў фашыстаў на іх зямлі. Закончылася яго франтавое жыццё ў партовым нямецкім горадзе Расток.

Пасля Перамогі І. С. Кружаленка яшчэ паўны час служыў. Запомнілася, як вялі назіранне па Балтыйскаму мору і давалі інфармацыю ў свой штаб.

19 снежня 1946 года дэмабілізаваўся і прыехаў на радзіму, аднаўляў разбураную вайной гаспадарку. Працаваў старшынёй калгаса, брыгадзірам будаўнічай брыгады, камендантам, уючотчыкам, брыгадзірам паляводчай брыгады. У 1982 годзе пайшоў на заслужаны адпачынак.

Разам са сваёй гаспадыняй, жонкай Яўгеніяй Васільеўнай, вырасцілі траіх дзяцей, зараз радуюцца шасці ўнукам і двум праўнукам.

— Усялякае ў жыцці было, — працягвае размову гаспадар. — І цяжкасці, і смутак, і радасці. Але ў сям'і стараліся берагчы адзін аднаго, падтрымліваць, дапамагаць. Жадаю кожнай сям'і добрага жыцця, мірнага неба над галавой.

За франтавыя заслугі, за сумленнае працоўнае жыццё Радзіма ўзнагародзіла І. С. Кружаленку ордэнамі і медалямі.

**М. КУРНОСАЎ,**
**старшыня пярвічнай арганізацыі ветэранаў вайны і працы Гусаркаўскага сельсавета.**

## Вяселле, золатам аздобленае

Міхаіл Аляксеевіч — чалавек нешматслоўны. Затое да працы заўсёды быў хвацкі, таропкі. Як прыйшоў з фронту ў сорак пятым, уладкаваўся на работу вадзіцелем у аўтабазу № 9. Больш двух дзесяткаў год працаваў на вялікагрузных машынах ЗІЛ, КРАЗ, вазіў пазменна, то ўдзень, то ўноч, пясок і мел на камбінат будматэрыялаў. Тады камбінат працаваў на поўную магутнасць, яго прадукцыя ішла ва ўсе канцы нашай вялікай краіны. І Міхаіл Аляксеевіч быў часцінкай той значнай работы, уносіўшы свой немалы працоўны ўклад у агульную справу.

Гэтак жа, калі спатрэбілася ў час вайны, самааддана вызваляў Радзіму ад фашысцкай навалы. У 1943 годзе прызвалі ў армію з в. Асмолавічы. Ваяваў у складзе 2 Беларускага фронту, разам са сваімі аднапалчанамі прайшоў з баямі Беларусь, Польшчу і закончыў вайну ў Германіі, на Эльбе, дзе сустрэліся са сваімі саюзнікамі-амерыканцамі.

З фронта вярнуўся інвалідам II групы, быў кантужаны, двойчы паранены. Узнагароды — ордэн Вялікай Айчыннай вайны 2 ступені, медаль "За Перамогу над Германіяй" і іншыя — заслуга яго баявога шляху.

Такая ж дастойная і працоўная біяграфія М. А. Асмалоўскага. Праўда, калі здароўе пачало крыху падводзіць, перайшоў з цяжкагрузных машын вадзіцелем па дастаўцы хлеба ў гандлёвыя кропкі. З гэтай пасады і пайшоў на заслужаны адпачынак. У працоўнай кніжцы Міхаіла Аляксеевіча нямала (лічы, каля трох дзесяткаў) удзячнасцей за добрую работу. Грашовыя прэміі таксама былі плёнам яго працы.

З М. А. Асмалоўскім няспешна гутарым пра жыццё-быццё. Як кажуць, з нагоды. Справа ў тым, што ў іх сям'і юбілей — нядаўна Міхаіл Аляксеевіч разам са сваёй жонкай Ганнай Васільеўнай адзначылі 50 год сумеснага жыцця. А пазнаёміліся яны яшчэ ў арміі, у Заходняй Беларусі. Маладая, прыгожая дзяўчына Аня працавала тады ў медсанбаце г. Слоніма. Пасля дэмабілізацыі Міхаіл прыехаў разам з ёй у Клімавічы. З тае пары неразлучныя паўвека. Ганна Васільеўна ўладкавалася на сілікатны завод, дзе і адпрацавала ўсё жыццё да самай пенсіі. Усялякае было ў жыцці — і радасці, і цяжкасці. Усе турботы — папалам, бераглі адзін аднаго, бо работа ў кожнага не з лёгкіх. Іх сын Аляксандр таксама рабочай закваскі, чалавек працавіты. Жыве ён са сваёй сям'ёй у г. Любані, што пад Мінскам, працуе на сілікатным заводзе.

Радуюць бабулю і дзядулю двое ўнукаў Сяргей і Андрэй, а яшчэ маленькая праўнучка Яначка. Расце новае пакаленне Асмалоўскіх — іх працяг, іх надзея. І хочацца, каб доля ў іх была шчаслівая. Бо дзеля іх будучыні рызыкаваў жыццём на фронце Міхаіл Аляксеевіч, дзеля іх працавала ў медсанбаце, уносячы часцінку сваёй працы ў Вялікую Перамогу, Ганна Васільеўна.

**Р. СЯРГЕЕНКА.**

*Памяць*

## Сустрэліся танкісты, гвардзейцы-сталінградцы!

Усю вайну прайшоў-праехаў на баявым танку ўраджэнец Клімаўшчыны Андрэй Міхайлавіч Галкоўскі. Ваяваў ён мужна, плячо ў плячо, з воінамі розных нацыянальнасцей. Абараняў Сталінград, вызваляў Беларусь і Літву.

Таму і невыпадкова, што яго часта запрашалі аднапалчане на свае сустрэчы. Пабываў на іх у Маскве і Елгаве, Маладзечне і Сімферопалі, Валгаградзе...

Вось і на гэтым здымку яго вы бачыце (у цэнтры) ля велічнага помніка абаронцам Сталінграда, што стаіць над Волгай, разам з танкістамі свайго корпуса: камандзірам узвода Якавам Фейфесам, які прыехаў на святкаванне з Харкава, і камандзірам узвода Руслікам з Кіева.

Адзін з іх граміў ворага на танку Т-34, другі — на падараваным амерыканскім "шэрнене", а трэці, наш зямляк, на цяжкім КВ. І кожны з іх, воінаў былога Саюза, набліжаў доўгачаканы Дзень Перамогі.



... Сустрэліся байцы-аднапалчане на месцах былых баёў роўна праз пяцьдзесят год. Святкуючы паўвекавы юбілей нараджэння 3-га гвардзейскага Сталінградскага механізаванага корпуса і яго баявое хрышчэнне ў Сталінградскай бітве з прысваеннем вышэйшых адзнак воінскай доблесці і славы — ганаровых назваў "Гвардзейскі Сталінградскі".

**І. ЛАПО.**

**Фота з сямейнага альбома А. М. Галкоўскага.**

## "Студэнцкая Вясна-2000"

У Клімавіцкім сельгастэхнікуме прайшоў традыцыйны фестываль студэнцкай самадзейнасці. У гэтым годзе ён прысвячаўся юбілейнай даце — 55-й гадавіне Вялікай Перамогі. У фестывалі прынялі ўдзел навучэнцы ўсіх аддзяленняў і груп, акрамя выпускных.

Трэба зазначыць, што сярод нашых студэнтаў шмат таленавітых, разумных, эрудзіраваных рабят, якія праяўляюць сябе не толькі ў авалоданні прафесійных навыкаў, а і ў культуры, спорце і г. д.

У фестывальнай праграме былі паказаны розныя жанры мастацкай самадзейнасці: вакальны, тэатральны, танцавальны. А таксама на суд журы прадстаўляліся падзелкі рабят, якія было вырашана прыпадчасці ў якасці сувеніраў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны на вечары, што праводзіўся ў тэхнікуме да свята Перамогі.

А цяпер аб пераможцах фестывалю. Першае месца заняла 31 група механічнага аддзялення (класны кіраўнік А. В. Цюлікаў). У групе адны юнакі, і сярод іх хацелася б адзначыць найбольш адказных і таленавітых: гэта Юрый Арлоўскі, Сяргей Курцін, Мікалай Стальмакоў, Мікалай Семчанка, Віталь Забавін, Сяргей Слянцоў, Дзіма Галалобаў і іншыя.

Другое месца за групай 302 ветэрынарнага аддзялення (класны кіраўнік Н. П. Дземідовіч). І ў гэтым заслуга ў першую чаргу Аляксандра Іванова, Андрэя Хмялькова, Наталлі Карпачовай, Рыгора Крутых, Святланы Агеевай.

У тройцы прызёраў і 11 група заатэхнікаў (класны кіраўнік Т. С. Шчарбіна). Сур'ёзна аднесліся да мерапрыемства і паказалі сябе найлепшым чынам Іна Шматкова, Іра Галавіна, Марына Сабінская, Віктар Капітанаў, Аляксандр Клімянкоў і іншыя.

На мастацкім савеце было вырашана адзначыць і сем выніковых месц. Іх раздзялілі паміж сабой групы: 301, 32, 22, 32"м", 202, 31 і 21"м", дзе класнымі кіраўнікамі Л. В. Пусянкова, Н. К. Іванова, П. В. Новікаў, А. В. Ларчанка, В. Н. Босаў, Т. К. Базылевіч, В. В. Трусаў.

Хочацца павіншаваць пераможцаў, а ўсім удзельнікам пажадаць быць актыўнымі не толькі ў вучобе, а і ў грамадскім жыцці тэхнікума. Тады і гады вучобы ў гэтай навучальнай установе запомняцца больш ярка і будуць успамінацца імі як самыя лепшыя дні юнацкай пары.

**Н. ЮРАНКОВА,**
**кіраўнік студэнцкага клуба.**

## Урок патрыятызму

У красавіку адбылася сустрэча навучэнцаў СШ № 2 з вязнямі Вялікай Айчыннай вайны Львом Уладзіміравічам Пракоф'евым і Таццянай Ціта ўнай Франчанка. Было вельмі цікава пачуць расказ з вуснаў людзей, выпрабаваўшых на сабе ўсе жахі канцлагераў. Нялёгкімі былі гэтыя ўспаміны. Але яны змаглі з дакладнасцю перадаць нам усё, што адбывалася з імі ў той жудасны час. Хваля патрыятызму пранеслася ў нашых душах, калі мы пачулі гэту споведзь.

Мы лічым, што такія сустрэчы трэба праводзіць кожны год, таму што яны многаму вучаць рабят, выхоўваюць пачуццё патрыятызму, любві да Радзімы, да краіны, дзе мы жывём.

**Галіна КУЛАКОВА.**
г. Клімавічы.

Борис ВОРОНИН

## Дочерям Родины

Когда историк
через много лет,
Себя от всех похоронив
в архиве,
Анализ станет подводить
побед
Войны Великой, будешь ты
в активе.

Ты — девушка, ты — женщина,
ты — мать,
Не меньше бед в войне той
выносила,
Чем твой любимый, твой отец,
твой брат,
И в этом проявлялась
твоя сила!

Агрессор в первых битвах
преуспел,
Не просто было выстоять
державе,
На фронте мужикам
хватало дел,
За тыл ответ ты, женщина,
держала.

На стройке, ферме, в поле,
у станка,
Везде ты долг, как надо,
выполняла,
Все успевала, быстра и
крепка,
Но до победы это
не хватало.

— Приди на помощь, Родина,
скорей! —
Неслось с фронтов. — Уже
Москва за нами! —
И ты, наперекор судьбе
своей,
Взяла винтовку нежными
руками.

Не все вернулись вы с дорог
войны,
И памятник над Волгой
и над Бугом,
Как символ славы, сыновьям
страны
И сестрам их, их боевым
подругам!

# Віншуем!

**Татьяну Михайловну КАРНАЦЕВИЧ С ЮБИЛЕЕМ!**

Дорогая моя доченька! С праздником тебя, с Днем рождения! Желаю здоровья, оптимизма, семейного благополучия, успехов во всем, долголетия, любви и всего, что понимаешь под словом "счастье". Желаю счастья без печали, желаю, чтоб друзья твои, тебя не огорчали. Чтоб звезды были средь зимы и лета, чтоб было очень много света, и пусть желанное свершится, ведь ради этого и стоило родиться.

**Твоя мама Галина Петровна РОМАШКЕВИЧ.**

**В Комитете государственного контроля**

## Два человека уволены

Проведены проверки организации питания школьников в школах № 1 и № 2 г. п. Краснополье. Установлены многочисленные нарушения основных правил ведения торговли и торгово-производственной деятельности: отпуск неполновесных блюд, несоблюдение ассортимента, нарушения норм закладки сырья в блюда и т. д.

Так, в школе № 1 (директор Цветкова В. И.) установлено отсутствие в достаточном количестве свежих овощей (свекла, морковь), колбасных изделий. За 10 дней апреля школьниками не выбраны натуральные нормы питания по рису, гречке, перловке, сокам, мясу, молоку, сыру.

В ходе проверки из-за недовесов забракованы булочные изделия, выработанные кондитерским цехом УПП "Общепит Краснопольского райпо). Запрещено использование в пищу детям 8,7 кг сельди соленой и 32,5 кг сухофруктов из-за несоответствия требованиям действующей нормативной документации. В результате испытаний отобранных проб обеда установлено нарушение рецептуры приготовления щей, жаркого по-домашнему из-за превышения массовой доли жира и компота из изюма, массовая доля сухих веществ в котором занижена на 15,9%.

В школе № 2 (директор Овсянник С. С.) в день проверки вместо предусмотренного по меню жаркого по-домашнему был приготовлен гуляш с рисовой кашей, однако согласно документов списано было жаркое по-домашнему. Разница в стоимости позволила излишне списать 2020 рублей. Установлен факт сокрытия масла сливочного в количестве 6,6 кг, а проведенная инвентаризация установила излишки в сумме 31794 рублей.

По результатам проверки 5 человек привлечены к административной ответственности. Приказом по УПП "Общепит Краснопольского райпо) к дисциплинарной ответственности привлечено 8 человек, в том числе 2 человека уволены.

**Информационно-аналитический отдел.**

**• Спорт**

## "Боль Чарнобыля-2000"



**Пад гэтай назвай у нашым горадзе вось ужо чацвёрты год праходзіць Рэспубліканскі дзіцячы асабіста-камандны турнір па шашках.**

Асноўная мэта турніра — стварэнне для хлопчыкаў і дзяўчынак яшчэ адной магчымасці патрэніраваць свой розум у шашачных баталіях. У будучым яны — спецыялісты ў розных галінах прамысловасці. А ўсюды, і асабліва ў ядзернай прамысловасці, патрэбны людзі з асаблівай увагай, дакладным мысленнем, хуткасцю дзеянняў, сканцэнтраванасцю.

24 красавіка, напярэдадні трагічнай даты, звязанай з аварыяй на ЧАЭС, адбылося ўрачыстае адкрыццё турніра. Іван Андрэевіч Баршчоў, намеснік старшыні райвыканкама, прывітаў удзельнікаў сёлетняга турніра, пажадаў камандам і кожнаму шашысту спартыўнай удачы, а ад мясцовага Лайансклуба ўручыў невялікія сувеніры.

Перад гэтым загадчык аддзела па фізічнай культуры, спорту і турызму райвыканкама Аляксандр Асмалоўскі запрасіў на сцэну каманды: з Валкавыска і Жлобіна, Гродна і Слоніма, Віцебска і Хоцімска, Мінска, Краснаполля і Клімавіч.

Слова для прывітання браў: ініцыятар названага турніра Валерый Фокін. А затым для рабят, усіх у зале спявалі, танцавалі, гралі лепшыя таленты раённага цэнтра.

У той жа дзень прайшло пасяджэнне суддзейскай калегіі і пачалася гульні першага тура. Увогуле турнір доўжыўся чатыры дні. Чатыры дні ўпартых спартыўных паядынкаў, перамог і ... паражэнняў. Быў час таксама для знаёмства з горадам, для таго, каб знайсці сабе сябра, для адпачынку.

І вось настуіў апошні дзень турніра, урачыстага яго закрыцця.

Галоўны суддзя спаборніцтваў Аляксандр Нікалаў прадаставіў спачатку слова старшыні аргкамітэта турніра І. А. Баршчову. Павіншаваўшы каманды з завяршэннем гульні, ён сказаў, што на наступны год турнір будзе яшчэ больш прадстаўнічым, бо ён у 2001 годзе адзначае свой першы 5-гадовы юбілей.

Які ж вынік гэтага турніра? Першае месца зноў, як і ў мінулыя гады, заняла каманда шашыстаў з Валкавыска, другое — клімаўчане (яны перамясціліся з пятага месца) і на трэцім месцы каманда з Віцебска.

У ліку асабістых прызёраў і нашы рабяты: на другой дошцы другім быў Валодзя Янчанка, сярод дзяўчат трэцяе месца ўзяла Аксана Арунтаева, на трэцяй дошцы трэці вынік паказаў Сярожа Янчанка. Трэба заўважыць, што рыхтавалі нашу каманду да адказных спаборніцтваў трэнеры Сяргей Грыпінскі і Аляксей Карпачоў, але падмурак для перамогі заклаў, вядома ж, былы трэнер рабят (цяпер трэнер юнай каманды з Гродна) Валерый Фокін.

Выступаючы, ён, а таксама трэнеры Аляксандр Андрыянаў і Аляксандр Анісько (Валкавыск і Слонім) адзначылі, што турнір быў арганізаваны і прайшоў цудоўна, без праблем. Нашым гасцям вельмі спадабаліся адносіны кіраўніцтва раёна да гэтага турніра. І сёлетнія каманды-ўдзельніцы абавязкова прымуць удзел у пятым, юбілейным турніры.

Ну, а Дыпломы прызёрам, грашовыя ўзнагароджванні, каштоўныя падарункі ўручаў ад спонсараў турніра — БПСМ і аддзела па справах моладзі райвыканкама — Сяргей Быкаў, першы сакратар РК ГА БПСМ.

**В. КВАРЦЮК.**

**• Служба 01**

## Причины обычные, но...

За четыре месяца текущего года в нашем районе произошло 15 пожаров, материальный ущерб от которых составил 2 миллиона 977 тысяч рублей. В огне погиб один человек, уничтожено 10 строений из них 3 жилых дома.

4 апреля произошел пожар в д. Стайки Галичского сельского Совета в хозяйстве Прудниковой Е. Е. Огнем повреждены и уничтожены дом, коридор и сарай. Причина пожара — нарушение правил при эксплуатации печи. Ущерб составил 619 тысяч 560 рублей.

16 апреля сгорает жилой дом и сарай в д. Жадунька, личная собственность Капраловой Л. Ф. Ущерб составил 300 тысяч рублей. Дело передано в РОВД.

22 апреля в д. Павловичи в хозяйстве Иванченко Л. И. из-за нарушения правил пожарной безопасности при монтаже и эксплуатации электропроводки происходит пожар в жилом доме. В этом случае сгорает дом и сарай, ущерб составил более миллиона рублей.

Пожары происходят по всем известным причинам, но в большинстве случаев не соблюдаются разрывы между строениями, или в разрывах хранятся дрова, сено. Если происходит пожар в сарае, огонь, не имея преград, в считанные минуты перебрасывается на жилой дом и тушить пожар в этом случае намного сложнее. А значит и ущербы будут намного больше.

**Л. РОМАНЕНКО,**
**ст. сотрудник центра обучения пожарной безопасности.**



## ЗАПРАШАЕМ!

**Да Дня фізічнай культуры і спорту РБ 20 мая на гарадскім стадыёне адбудзецца спартыўнае свята.**
**Пачатак — у 10 гадзін раніцы.**

## У дзень вялікага свята

Клуб "Субяседніца", што працуе пры Недзведзьскай бібліятэцы, рашыў урачыста адзначыць свята пасхі, або Вялікдзень.

Запрашаліся ветэраны вайны і працы, настаўнікі і вучні.

12 гадзін. Вядучыя Галіна Мікалаеўна і Валянціна Віктараўна Буракова горача віншуюць прысутных, жадаюць ім моцнага здароўя, дабра і веры ў лепшае будучае.

Ад ветэранаў вайны цёплыя словы прывітання і добрыя пажаданні прысутным перадаў былы афіцэр Савецкай Арміі Міхаіл Цітавіч Пруднікаў. Ён павіншаваў землякоў з надыходзячым святам — 55 гадавінай Перамогі нашага народа над гітлераўскай Германіяй.

Настаўніца школы С. В. Галянкова, актыўны ўдзельнік клуба "Субяседніца", сфатаграфавала ўдзельнікаў свята на памяць.

Загадчыца бібліятэкі прапануе прысутным своеасаблівую праграму, прысвечаную гэтаму святу. Тут і кароткая гістарычная даведка аб часах прыняцця Хрысціянства, і старажытныя абрады славянскіх народаў.

Валянціна Віктараўна сабрала і прапанавала прысутным цікавы матэрыял аб тым, як нашы продкі ў Перадвялікодны тыдзень рыхтаваліся да свята, каб з лёгкай душой сустрэць Вялікдзень.

Які ж стол без куліча і пафарбаваных яек?

Удзельнікі клуба прынеслі для ўдзелу ў конкурсах свае вырабы. Найбольш творча і прыгожа размалявала яйкі настаўніца школы Р. М. Буракова.

Весела і актыўна прайшоў конкурс на лепшую пасху. Улічвалася мастацкае афармленне і смак. Тут пераможцай выйшла Ала Іванаўна Падгурская, якая і атрымала першы прыз. Яе пасха з выгляду нагадвала прыгожую веснавую кветку з сямі пялёсткамі, кожны з іх з рознымі начынкамі. Цудоўная работа: і прыгожа, і смачна.

Не абышлося і без самай любімай гульні ў Вялікдзень "Біткі".

Прызы атрымалі і пераможцы другіх конкурсаў: М. П. Казлоў, М. Ц. Пруднікаў, Т. В. Мамыка.

Добры гэты адпачынак. Усім было весела і прыемна.

У заключэнне, па традыцыі, прысутныя горача павіншавалі сваіх імяніннікаў з днём нараджэння і ўручылі ім букеты прыгожых беласнежных нарцысаў.

**М. ПАЦЁМКІНА,**
**ветэран педагагічнай працы.**

**• Человек — человеку**

## Рядом в трудную минуту

Горе не предупреждает о своем приходе — сваливается, как снег на голову. Самое большое несчастье — потерять родного человека. Умер мой сын. Пережить такую утрату невыносимо трудно. Но в своем горе я не была одинока. Огромную помощь и поддержку мне оказали заместитель председателя райисполкома Иван Андреевич Борщев, директор сельскохозяйственного техникума Евгений Анатольевич Борисевич, завуч техникума Николай Михайлович Жигалко, заместитель директора по воспитательной работе Татьяна Федоровна Босова, главный бухгалтер Зинаида Петровна Леонова, водитель Александр Николаевич Трубицын. Была организована доставка тела сына, который умер в больнице г. Минска.

Моя искренняя признательность за сочувствие моему горю и оказанную помощь соседям, друзьям, родным и близким, коллективу сельхозтехникума — всем тем добрым людям, которые помогли нам в трудную минуту. Безмерно благодарна всем в организации похорон моего сына.

**Татьяна Александровна ПИСЬМЕНКОВА, г. Климовичи.**

## Помогли добротой и участием

Беда пришла в наш дом нежданно. Умер мой муж, но я не оказалась одна в горе. На помощь пришли добрые люди, которые оказали нам моральную и материальную поддержку.

Сердечность, сочувствие проявили к моей семье родные, близкие, друзья, соседи, знакомые. Большое спасибо. Очень благодарна за помощь директору унитарного производственного предприятия "Комбинат общественного питания" Климовичского райпо Елене Анатольевне Бутьковой, всему коллективу работников ресторана и общепита. В одиночку преодолеть горе было бы очень тяжело. А потому — низкий поклон всем добрым людям!

**Надежда Михайловна САВРЕЙ.**




**Галоўны рэдактар Мікола МІНЧАНКА**

**"РОДНАЯ НІВА". Заснавальнікі: Клімавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Клімавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах 2 разы на тыдзень — па серадах і суботах.**

**Кошт 1 экземпляра газеты — 32 рублі.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213600 г. Клімавічы, пл. 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, д. № 1.

ТЭЛЕФОНЫ: галоўнага рэдактара -- 2-11-69, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела савецкага будаўніцтва -- 2-11-60, адказнага сакратара -- 2-12-63, аддзелаў сацыяльных праблем і інфармацыі, рэдактара аддзела па рэкламе і аб'явах -- 2-12-65, аддзела эканомікі і бухгалтэрыі -- 2-12-64, аддзела радыёінфармацыі -- 2-31-58, прыёмнай рэдакцыі -- 2-11-69, мясцовай друкарні --2-31-55.

Рэдакцыя газеты мае права публікаваць артыкулы і іншыя матэрыялы ў парадку іх абмеркавання, не падзяляючы пры гэтым думкі, погляды і меркаванні таго ці іншага аўтара.

За змест аб'яў і іншых рэкламных матэрыялаў рэдакцыя не адказвае. Усе даведкі -- у рэкламадаўцаў.

**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы Н. Абжыгалава.**

**Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я. М. Свярдлова (вул. Першамайская, 70, тэл. 25-28-05). Аб'ём — адзін друкаваны аркуш.**
**Зак. 38. Тыраж 1850 экз. Індэкс 64078. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 286.**

**Выдавец — аддзел па друку Магілёўскага аблвыканкама**

**Газета падпісана да друку ў 17.00 16. 5. 2000 г.**